# Голас Радзімы

№ 2 (1988)
8 студзеня 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



**Алег Валадзько** — старшыня калгаса імя Суворава, што на Пастаўшчыне. Яго імя сёння значыцца ў спісе лепшых калгасных кіраўнікоў рэспублікі: калектыўная гаспадарка, якую ён узначальвае,—адна з эканамічна моцных на Беларусі. Мільённыя прыбыткі, якія тут атрымліваюць ад продажу дзяржаве сельскагаспадарчай прадукцыі, дазваляюць паляпшаць умовы працы, быту і адпачынку мясцовых сялян. Магазін, калгасная гасцініца, дзіцячая музычная школа, бальніца, танцавальная зала для моладзі — новабудоўлі апошніх год. Яны ў значнай ступені — плён арганізатарскай, творчай працы старшыні А. Валадзько, чалавека энергічнага і дзелавога.

Як звычайна, з надыходам новага года людзі звязваюць надзеі на здзяйсненне сваіх новых планаў і пачынанняў. Есць яны, безумоўна, і ў старшыні калгаса імя Суворава. Ажыццяўленне ж задуманага прынясе задавальненне не толькі асабіста яму, але і кожнаму ў гэтым калгасе. Бо мары старшыні пра тое, каб усюды на роднай зямлі заўтра жылося лепш, чым учора і сёння.

**НА ЗДЫМКУ:** старшыня калгаса імя Суворава Пастаўскага раёна Алег ВАЛАДЗЬКО.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

# АДКАЗЫ М. С. ГАРБАЧОВА НА ПЫТАННІ АМЕРЫКАНСКАГА ЖУРНАЛІСТА Дж. КІНГСБЕРЫ-СМІТА

Што б Вы хацелі сказаць амерыканскаму народу ў сувязі з новым, 1987 годам?

Адказваючы на першае пытанне, Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў падкрэсліў, што савецкія людзі хочуць жыць у міры з амерыканцамі, не праяўляюць да іх варожасці. Ад імя кіраўніцтва СССР, сказаў ён, мог бы дадаць, што выпрацоўваючы палітыку ў пытаннях вайны і міру, мы перад амерыканскім народам гэтак жа сумленныя, як і перад сваім уласным. Наша эпоха—эпоха ядзернай зброі. Яшчэ раз паўтару: і загінуць, і выжыць мы можам толькі разам. Бяспека сёння магчыма толькі ўзаемная, а яшчэ больш дакладна—усеагульная. Так што падабаемся мы адзін аднаму або не—трэба вучыцца суіснаваць, жыць у міры.

Дж. Кінгсберы-Сміт спытаў, ці выступае Генеральны сакратар ЦК КПСС за працяг у 1987 годзе жэнеўскіх перагавораў паміж савецкімі і амерыканскімі прадстаўнікамі з мэтай дасягнення прагрэсу ў пытаннях абмежавання і скарачэння ўзбраенняў.

Так, адказаў М. С. Гарбачоў, выступаем. За перагаворы, якія выйшлі б са стану бясплённасці і інертнасці, словам, сталі сапраўднымі перагаворамі аб скарачэнні ядзерных узбраенняў, недапушчэнні гонкі ўзбраенняў у космасе. Мы дабіваліся гэтага ў Рэйк'явіку. І яшчэ больш энергічна будзем дабівацца ў 1987 годзе. Упэўнены, што такі радыкальны паварот у перагаворах адпавядаў бы і жыццёвым інтарэсам амерыканскага народа. Разам з тым, сказаў М. С. Гарбачоў, пазіцыя адміністрацыі ЗША ў гэтым пытанні нас глыбока засмучае. Пасля Рэйк'явіка амерыканская дэлегацыя ў Жэневе пайшла нават назад. Нягледзячы на тое, што СССР на працягу паўтара года не праводзіў ядзерных выбухаў, ЗША працягвалі выпрабаванні і адмаўляліся ад перагавораў аб іх поўнай забароне, хоць яны абавязаліся іх весці па двух дагаворах—1963 і 1974 гадоў. У лістападзе да гэтага дабавіўся абуральны акт разрыву Белым домам важнага пагаднення аб абмежаванні стратэгічных узбраенняў (АСУ-2). Не дапамагае вядзенню паспяховых перагавораў аб новых пагадненнях, калі наўмысна, дэманстратыўна разрываюць старыя.

Ці прадбачыце Вы, спытаў амерыканскі журналіст, магчымасці дасягнення кампраміснага пагаднення на працягу наступных двух гадоў па пытаннях процiракетнай абароны, калі будзе дагаворанасць аб неразгортванні стратэгічнай абарончай сістэмы касмічнага базіравання на працягу ўзаемна ўзгодненага перыяду часу?

Генеральны сакратар ЦК КПСС адказаў, што пры ўсіх умовах не павінна рабіцца нічога, што размывала або падрывала б Дагавор па ПРА. Гэта пазбавіла б нас усякіх надзей на скарачэнне ядзерных арсеналаў, разбурыла б стратэгічную стабільнасць. Мы за тое, каб падпісаны ў 1972 годзе бестэрміновы Дагавор па ПРА захоўваўся. І захоўваўся бестэрмінова. Мы шкадуем, што адміністрацыя ЗША прытрымліваецца іншай лініі, якая дапускае магчымасць выхаду ЗША з дагавора па ПРА, калі ЗША палічаць гэта выгадным для сябе ў ходзе ажыццяўлення праграмы СОІ. Савецкі Саюз не проста за захаванне Дагавора па ПРА, але і за ўмацаванне яго рэжыму.

ТЭЛЕГРАФНАЯ СУВЯЗЬ

## ПАСКОРЫЦЬ «АЎТАФАКС»

Прыём тэлеграм на хаду стане магчымым з прымяненнем новай апаратуры «Аўтафакс». Першая партыя кампактных прыбораў, якія свабодна размяшчаюцца ў легкавых аўтамабілях, выраблена на мінскім доследным заводзе «Прамсувязь».

Тэрміновыя паведамленні—тэлеграмы—павінны аператыўна дастаўляцца адрасатам. Аднак дабіцца гэтага ў буйных гарадах удаецца не заўсёды, асабліва ў начны час, калі большасць раённых аддзяленняў сувязі закрыта і прыём вядзецца толькі на цэнтральных тэлеграфах. Даводзіцца збіраць тэлеграмы, каб потым развезці іх адным рэйсам. А ў агульным патоку ёсць жа і экстранныя. Новая апаратура, у якую ўваходзіць графічны прыбор, які фіксуе тэкст на тэрмаадчувальнай паперы, і рацыя, што прымае сігналы з цэнтральнага тэлеграфа, можа атрымліваць паведамленні ў любым пункце горада. Па самаму кароткаму маршруту яны дастаўляюцца адрасатам. Нават для мільённага горада дастаткова некалькі аўтамашын, абсталяваных «Аўтафаксамі», каб забяспечыць найбольшую аператыўнасць тэлеграфнай сувязі.

Доследныя ўзоры прыбораў паспяхова выпрабаваны ў сталіцы Літвы—Вільнюсе. У бягучай пяцігодцы плануецца аснасціць падобнымі ўстройствамі ўсе буйныя гарады краіны.

АЎТАМАТЫЗАЦЫЯ

## У ЦЭХ ПРЫЙШОЎ ДЫСПЛЕЙ

Звыш сотні каманд аператара здольны прымаць новыя вязальныя машыны, устаноўка якіх завершана ў цэхах Жлобінскага вытворчага аб'яднання штучнага футра. Яны аснашчаны камп'ютэрамі, дысплеямі, мікрапрацэсарамі. Цяпер увод малюнка ажыццяўляецца з дапамогай электронікі, што не толькі расшырыла асартымент жакардавага футра, але і значна павысіла яго якасць, спажывецкія ўласцівасці. Калі старыя машыны абслугоўвалі два чалавекі—вязальшчык і памочнік майстра, то на новых з поспехам спраўляецца адзін аператар.

Эканамічны эфект ад рэалізацыі пяцігадовай праграмы «Інтэнсіфікацыя», распрацаванай у аб'яднанні, складзе звыш шасці мільёнаў рублёў.

РОБАТЫЗАЦЫЯ ВЫТВОРЧАСЦІ

## ЭЛЕКТРОННЫ «МАЛЯР»

Прыгожы выгляд забяспечыць сучасным «МАЗам» робататэхналагічны комплекс, [illegible] пачаў дзейнічаць на Мінскім аўт[illegible]більным заводзе. Электроннаму «м[illegible]ляру» перададзена адна з самых шкодных і працаёмкіх вытворчасцей—афарбоўка кабін.

Перш чым спрацуе афарбовачны маніпулятар, кабіну ў «абодва вокі» разглядаюць [illegible]зве невялікія тэлекамеры—так зв[illegible] сістэма распазнавання. Вызнача[illegible]да яе габарыты—бо па канвееру адначасова могуць ісці розныя мадэлі—пасля чаго камп'ютэр уключае патрэбную праграму. Плаўнымі, да міліметра правеpанымі рухамі маніпулятар наносіць на паверхню слой фарбы.

Пасля работы аўтаматыкі паверхня люстэркавая і ідэальна роўная. І гэта не адзіная вартасць комплексу. Пакуль у яго «палітры» адзін колер—жоўты, але сёлета дабавяцца яшчэ чатыры, якія ён можа аўтаматычна мяняць у залежнасці ад праграмы. Падобнае абсталяванне, якое выкараняе ручную працу, пакуль яшчэ вялікая рэдкасць і ў айчынным аўтамабілебудаванні, і за рубяжом.

З укараненнем комплексу на прадпрыемстве практычна закончана робатызацыя цэлай вытворчасці—прэсавакузаўной. Акрамя афарбоўкі, аўтаматыка цяпер выконвае штампоўку буйнагабарытных кузаўных дэталей і зварку кабін. Цяпер на чарзе—механазборачная вытворчасць і тэрмаапрацоўка. У гэтай пяцігодцы трэба будзе ўключыць у справу звыш сотні робататэхнічных комплексаў і маніпулятараў.

МЕЛІЯРАЦЫЯ

## ДАПАМАГАЕ ЭВМ

Практычна любую аператыўную і статыстычную інфармацыю аб дзейнасці шматтысячнага калектыву палескіх меліяратараў можна атрымаць на экране дысплеяў, устаноўленых у дысплейным зале Галоўпалессеводбуда. А з мэтай забеспячэння непасрэднага доступу да электронна-вылічальнай машыны для атрымання неабходнай інфармацыі ўсімі работнікамі апарату ўпраўлення абсталявана дысплейная зала.

Прымяненне ЭВМ у меліярацыйным будаўніцтве павышае эфектыўнасць дзейнасці кіраўніцкага персаналу, дазваляе аптымізаваць планавыя і арганізацыйныя рашэнні, глыбей унікаць у сутнасць ажыццяўляемых задач, а на аснове гэтага аператыўна ўздзейнічаць на ход вытворчых спраў.

ЗОНА АСАБЛІВАЙ УВАГІ

## ВЯРТАННЕ

Самым вялікім навагоднім падарункам для жыхароў 12 вёсак Брагінскага раёна, якія былі эвакуіраваны з 30-кіламетровай зоны Чарнобыльскай АЭС, стала вяртанне ў [illegible]ныя мясціны.

Слова рээвакуацыя ў тутэйшых месцах пакуль нязвыклае ва ўжытку. Але кожны ў вёсках Гдзень, Людвінаў, Іванаўка, Пасека і іншых ведае: азначае яно вяртанне дадому, якога з такім нецярпеннем чакалі людзі. Засумавалі яны па роднаму [illegible]двор'ю, ды і хаты паастывалі без [illegible]зечага цяпла, толькі-толькі пачына[illegible]ць ажываць. Яны яшчэ паслужаць гаспадарам, якія паспелі падправіць плот, завесці жывёлу. І ўжо які гэта клопат прыемны! Аб гэтым можна пачуць у любым з 284 двароў вёскі Гдзень. Тут зноў узняты флаг БССР над канторай калгаса, дзе размешчаны і выканком сельскага Савета, пачаліся заняткі ў васьмігадовай школе.

Ва ўсіх заселеных вёсках праведзены вялікія работы па дэзактывацыі тэрыторыі, жылля, гаспадарчых пабудоў, расказвае старшыня Брагінскага райвыканкома А. Пракопаў. Дадаткова вядзецца добраўпарадкаванне вуліц, пад'ездаў да ферм, двароў.

...На Новы год свяціліся агнямі прыгожыя ёлкі ў дамах, жыхароў якіх сарвала з месца наша агульная бяда. Гэта свята для іх было радасным удвая.

СЕЛЬСКІЯ НАВІНЫ



**Эксперыментальная база «Анопаль» Мінскага раёна забяспечвае элітным насеннем усе калгасы і саўгасы Мінскай вобласці. Летась гаспадарка нарыхтавала для рэалізацыі 1 015 тон збожжа і каля 800 тон бульбы. У гэтыя дні на палі эксперыментальнай базы вывозяцца арганічныя ўгнаенні пад новы ўраджай.**

**НА ЗДЫМКУ: чарговую партыю элітнага насення збожжа рыхтуюць да адпраўкі ў гаспадаркі загадчыца зерняскладa Валянціна ШЛЯХЦІЦАВА і галоўны аграном эксперыментальнай базы Мікалай АФАНАСЕНКА.**

РЭКАНСТРУКЦЫЯ

## ...І МАШЫНЫ ГАРШКІ АБПАЛЬВАЮЦЬ

Традыцыйную ручную вытворчасць перадалі машынам спецыялісты Беларускага вытворчага аб'яднання мастацкай керамікі. Па іх распрацоўках на розных прадпрыемствах рэспублікі выраблены многія віды нестандартызаванага абсталявання, якое дало магчымасць прадпрыемству ў кароткі тэрмін удвая перавысіць запланаваную магутнасць, стаць надзейным пастаўшчыком дабротных тавараў для народа.

У рэканструкцыю вытворчасці вялікі ўклад унеслі інжынерна-тэхнічныя работнікі прадпрыемства. Яны самі распрацавалі чарцяжы розных механізмаў і прыстасаванняў, значную частку якіх вырабілі рабочыя аб'яднання. На фармовачных участках, напрыклад, устанавілі паўаўтаматы і ліцёвыя канвееры, якія замянілі цэлую брыгаду рабочых. На электраэнергію замест газу перавялі печы так званай падвяльнай вытворчасці. Дзякуючы чаму намнога палепшыліся ўмовы працы і вызваліліся вытворчыя плошчы. Фактычна безлюдным стаў цэх падрыхтоўкі сумесей. Усё тут робяць машыны, кіруемыя аператарам з дапамогай аўтаматыкі. Рабочым жа знайшлася справа на іншых участках.

КАНКУРЭНТАЗДОЛЬНАСЦЬ

## ПІЯНІНА ЧАРОЎНЫЯ ГУКІ

Сур'ёзным канкурэнтам піяніна вядомых марак «Петроф», «Рэніш» і іншых стаў новы інструмент Барысаўскай фабрыкі піяніна. «Беларусь-10» мае высокія акустычныя ўласцівасці, багатую палітру гучаў. Ад папярэдніх мадэлей навінка адрозніваецца і асабліва прыгожым аздабленнем.

Першыя інструменты, якія былі выраблены ў канцы мінулага года, хутка знайшлі сваіх пакупнікоў на выстаўцы-продажы ў мінскім магазіне «Музыка». Сёлета іх выпуск узрасце да дзвюх тысяч.

З замежных пакупнікоў, а сёння фабрыка экспартуе свае вырабы ў 25 краін, першымі заказ на ўдасканаленыя піяніна прыслалі японскія фірмы, якія гандлююць музычнымі інструментамі.

МІНСКАЕ МЕТРО



**У Мінску адкрылася яшчэ адна, дзявятая па ліку, станцыя метрапалітэна—«Усход». Цяпер працягласць Мінскага метро складае 10 кіламетраў.**

**Размешчана новая станцыя ў густанаселеным гарадскім раёне, што дае яго жыхарам максімум зручнасцей. Атрымаўшы хуткасны камфартабельны транспарт, яны цяпер менш часу затрачваюць на паездкі на працу і дадому, могуць хутка дабрацца да чыгуначнага і аўтобуснага вакзалаў, буйных магазінаў, тэатраў... Напрыклад, у цэнтр горада адсюль можна трапіць зараз усяго за 14 хвілін. Раней жа паездка аўтобусам ці тралейбусам займала 40 хвілін. Так што для многіх жыхароў беларускай сталіцы адкрыццё станцыі «Усход» стала важнай падзеяй. Цяпер Мінскае метро перавозіць у сярэднім 250 тысяч пасажыраў у суткі. А ўсяго за два з паловай гады сваёй работы метрапалітэн перавёз 192 мільёны пасажыраў.**

**Другая лінія метро, даўжынёй 19 кіламетраў (будаўніцтва яе пачалося некалькі год назад), звяжа буйны жылы масіў праспекта Пушкіна з прамысловым раёнам горада, дзе размешчаны аўтамабільны і трактарны заводы, іншыя прадпрыемствы. Перасякуцца абедзве лініі ў цэнтры беларускай сталіцы — на станцыі «Кастрычніцкая».**

**Генеральны план развіцця Мінскага метрапалітэна прадугледжвае таксама будаўніцтва трэцяй, самай доўгай лініі.**

**НА ЗДЫМКУ: урачыстае адкрыццё станцыі «Усход».**

## ЛАНГЕПАС—ГОРАД БЕЛАРУСКІ

# II. ПЕРШЫЯ

На раз'ездзе Ур'еўскі цягнік стаіць толькі адну хвіліну. Аляксандр Шкнай і яшчэ трое хлопцаў (усе з Маладзечна) хуценька выгрузілі свае рукзакі. Пераначавалі ў палатцы, а раніцай пачалі выгружаць першыя вагоны з Беларусі. Работы непачаты край. А на запасны пуць усё прыбываюць і прыбываюць грузы. Растуць горы будаўнічых матэрыялаў і інструментаў. Нягледзячы на стому, працавалі дацямна...

Гэта быў жнівень 1980 года. Чацвёрка Шкная ішла паперадзе асноўных сіл будаўніча-мантажнага трэста № 37, які быў спецыяльна створаны для работ у Заходняй Сібіры.



У канцы жніўня на раз'езд прыбыла новая група з горада Ніжневартаўска, дзе базіраваліся беларускія будаўнікі. А Шкнай і яго калегі раніцай наступнага дня адправіліся на бераг пратокі Лангепас — месца будучага горада.

Арыенцір — тры высокія кедры на пакатым беразе — заўважылі яшчэ здалёк. А вакол буралом, павал, абгарэлыя пасля ляснога пажару сосны. Пілы, сякеры ў рукі — і за работу. Да вечара расчысцілі невялікую пляцоўку, расклалі вогнішча. Ля яго і пераначавалі. Раніцай зноў праца. Настрой сапсавала надвор'е: пайшоў дождж. Давялося падумаць пра жыллё. Пабудавалі з голля вялікі шалаш, дзе можна было абагрэцца і абсушыцца.

Праз некалькі дзён прыехалі мінчане — начальнік участка Мікалай Аксёнаў і разам з ім брыгада Віктара Мамаева. Аксёнаў, сабраўшы ўсіх, вызначыў задачу: да надыходу зімы ўстанавіць вагончыкі — часовае жыллё, пабудаваць інтэрнаты.

...Неба зацягнулі густыя хмары. Дзьме халодны вецер, Сонца ўжо няма некалькі дзён. Мясцовы егер, які завітаў да будаўнікоў, расказаў, што такое надвор'е ў іхніх краях звычайна папярэднічае першаму снегу. Трэба спяшацца. Мікалай Аксёнаў і яго хлопцы працуюць ад золку і да змяркання.

— Пасля такой работы спіш, як пшаніцу прадаўшы, — расказваў мне пазней Аляксандр Шкнай. — Але ў тую ноч, як пачулі аддалены гул машын, усе ўскочылі, бы па камандзе. Выбеглі на вуліцу. Першы трактарны поезд сустракалі, як касманаўтаў пасля палёту...

Сорак восем гадзін перадольвала калона 20-кіламетровы ўчастак балот і тайгі ад раз'езда Ур'еўскі да трох кедраў на беразе пратокі Лангепас. Паперадзе галаўнога трактара ішлі людзі па калена ў гразі і валілі дрэвы, слалі дарогу.

Радасць гэтай першай перамогі падбадзёрыла людзей. Сходу ўзяліся за будаўніцтва піларамы — патрэбны былі дошкі, брус, іншыя матэрыялы. Праўда, не абышлося і без кур'ёзаў. Выкапалі ямы, паставілі слупы, а вось засыпаць іх ужо не хапіла сіл. Лункі хутка запоўніла вада, і да раніцы слупы «зацэментаваў» лёд. Так яны да вясны і стаялі.

Да Новага года былі гатовы тры інтэрнаты, склад, лазня — усё з дрэва. Побач стаялі дзесяткі [illegible]лых вагончыкаў. Пачалі будаваць сталоўку. Упрыгожылі яе нацыянальным арнаментам і назвалі «Алесяй». А ў трох сотнях крокаў ад гэтага месца, на супрацьлеглым беразе пратокі, закладваўся пасёлак. На пля[illegible] пачалі паступаць канстр[illegible]ыі драўляных аднапавярховых домікаў. Ставіць іх даручылі ўчастку Мікалая Аксёнава. (На наступны год тут пасяляцца паўтары тысячы будаўнікоў з Беларусі). У гэтыя ж дні арганізавалі яшчэ адзін участак, які павінен быў закласці першы мікрараён горада (таксама драўляны). Узначаліў яго мінчанін Павел Рубашэўскі. Калі быў забіты калок пад першы будынак горада, ён уласнаручна прымацаваў да сасны шчыт з надпісам: «Лангепас. Беларускі горад у Сібіры. Закладзены 7 студзеня 1981 года».

Галоўны геадэзіст трэста мінчанін Валерый Іваноў (гэта ён «пераносіў» горад з аркушаў праекта на сібірскую зямлю) расказвае мне пра тыя першыя месяцы і сам здзіўляецца, як цяжка было пабудаваць тут нават самы просты аб'ект:

— Вунь колькі клопату даў толькі адзін катлаван для помпавай станцыі. Здавалася б, работа нескладаная: глыбіня дзевяць метраў, шырыня дзесяць. У нас дома гэта зробіць экскаватаршчык-практыкант. А тут лепшыя спецыялісты рады даць не маглі: выцягнуць коўш зямлі, і ямка тут жа запаўняецца вадой і граззю, хаця на двары лютая зіма, мароз пад сорак градусаў... Давялося выцягнуць дадаткова каля дзесяці тысяч кубоў грунту. Катлаван атрымаўся ў дыяметры каля сотні метраў.

— А вясной пачалася бездараж,— успамінае Іваноў. — Пакуль трымаў ніжні слой мерзлаты, трактары яшчэ хадзілі, хаця выбівалі глыбокую каляіну. Едуць яны, а бачна толькі частка кабіны і выхлапная труба. А хутка і трактары сталі. Цяпер на аб'екты мы маглі дабрацца толькі ў балотніках — гумавых ботах да пояса.

Чым цяжэй работа, тым больш радуюць яе вынікі. Як тут не прыгадаць словы Валерыя Жука, які быў тады намеснікам галоўнага інжынера трэста. «Радасцей у нас па адной на кожны дзень,— гаварыў ён. — Пабудавалі дом — падзея, цеплатрасу пракладзі — падзея, лінію электраперадач працягнулі — таксама падзея».

Сапраўды, тады на будоўлі кожны маленькі поспех лічыўся падзеяй. Напэўна таму, перш за ўсё, што, пераадольваючы цяжкасці, людзі бачылі перспектыву. Няхай яшчэ пункцірам, але ўжо бачны былі абрысы будучага горада, паступова наладжвалася нармальнае жыццё.

Але пра гэта наступны раз.

**Леанід АНІКЕЕЎ.**





**НА ЗДЫМКАХ: начны Лангепас; на буравой вышцы. Адсюль пачынаюцца нафтавыя патокі, якія цякуць ва ўсе куткі Савецкай краіны; спецыялісты «Белдзяржпраекта» абмяркоўваюць праект забудовы новых вуліц горада.**

## ХІРУРГ-ПЛАСТЫК ГЕНРЫХ КРУЧЫНСКІ

# ВЯРТАЦЬ ЛЮДЗЯМ УСМЕШКІ

СОНЦА абрушыла на яго нясцерпную спёку. Вострa пахла порахам. Ён паспеў заўважыць, што ляжыць на гарбатай купіне, нашпігаванай астываючымі асколкамі. Усю вайну прайшоў, да Берліна засталося зусім нямнога, і вось знайшоў яго пад Грабаўзее асколак...

«Асцярожней здымайце гэтыя анучы, яны прысохлі. Скальпель, тампон, шпрыц... Будзе цуд, калі ён выжыве. Зашывайце. Мы зрабілі ўсё, што змаглі...»

Генрых ляжаў, спавіты бінтамі, і боль глухой сцяной адгароджваў яго ад усяго свету. Ён растварыўся ў ім, а чырвонае сонца наплывала ўсякі раз, калі аддзіралі прысохлыя бінты.

Аднойчы апрытомнеў ад святла, быццам доўга-доўга праседзеў у глыбокім калодзежы, і таропка зажмурыўся. Адчуваў: нехта пільна на яго глядзіць. На суседнім ложку ляжаў чалавек. Твару ў яго не было: суцэльныя шрамы, апёкі, і ўсё ў чорных плямах. Як аказалася потым — сапёр. Заўважыўшы спалоханы позірк Генрыха, ранены адвярнуўс[illegible] сцяны.

— Няўжо нічога нельга зрабіць, вярнуць гэтаму чалавеку твар? — спытаў аднойчы Генрых Кручынскі ў дактароў на шпітальным абходзе.

— [illegible] вялікая, «ювелірная» рабо[illegible]а спецыялістаў адзін-два на ўсю краіну, — адказалі яму. — Ды калі іх будзе нават і тысяча, усё роўна ім не справіцца з горам, якое пакінула вайна.

Калі байца дывізіі імя Касцюшкі Генрыха Кручынскага, які цудам выжыў, спісалі з ваеннай службы, у яго з'явілася вялікае жаданне заняцца гэтай «ювелірнай» работай у хірургіі.

Але спачатку трэба было стаць звычайным урачом. І вось за плячамі Кіеўскі медыцынскі інстытут. Доўгія вечары ў раённай бальніцы. Пад рукой — дзесяць кніг па аператыўнай хірургіі з падрабязнымі ілюстрацыямі. Да першай аперацыі прыступаў, як сапёр, — вельмі асцярожна. Спыняючыся ля пасцелі, на якой, кідаючыся ў гарачцы і цяжка дыхаючы, пакутаваў чалавек, ён выціскаў са сваёй галавы, здаецца, усе веды, што ў ёй былі. Пальцы вадзілі па сухой, палаючай скуры, ён глядзеў у зрэнкі хворага і — шукаў, шукаў, прадзіраючыся скрозь сумненні адзіна дакладныя хады. Мозг трымала ў напрузе пастаянная думка — выратаваць.

Пасля першай удалай аперацыі ён падумаў пра таго сапёра, суседа па шпітальным ложку. Пашкадаваў, што не папрасіў некалі ў яго адрас...

Далейшы шлях у медыцыне хірурга Генрыха Кручынскага быў такім. Практыка ў клініцы сківічна-тваравай хірургіі ў Маскве, вучоба ў такіх майстроў пластыкі, як лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР Н. Міхельсон, лаўрэат Ленінскай прэміі Ф. Хітроў, абарона доктарскай дысертацыі, пераезд у Мінск, дзе, на яго думку, была самая вялікая колькасць шрамаў вайны на тварах.

У яго аперацыйнай, трэба сказаць, людзі заўжды набывалі надзею на радасць. Амаль усе аперацыі былі складаныя, паэтапныя. Але хворыя яму верылі, таму што ён, як вызначыла грамадская думка, навучыўся рабіць цуды. Выпраўляць такія рэдкія анамаліі, як аднабаковае недаразвіццё часткі твару, карыстацца складаным трансплантантам, нарошчваць вушы, насы, выдаляць сляды глыбокіх апёкаў. Давялося яму стаць і інжынерам — стваральнікам медыцынскай тэхнікі. З яго ўдзелам былі створаны прыборы, аснашчаныя валаконнай оптыкай — набор інструментаў, да якіх праяўлялі павышаную цікавасць замежныя калегі. Генрых Кручынскі стаў аўтарам больш чым 20 пасведчанняў на вынаходкі. Але ўсё гэта ён лічыў другарадным, галоўнае — твары з затоенай радасцю ў вачах.

У яго цяжкая, але вельмі карысная работа — вяртаць людзям усмешку.

«Дарагі Генрых Уладзіслававіч! Мне цяпер не сорамна і на людзях паказацца, і ў люстэрка не балюча паглядзецца... Ужо і не ведаю, як вам дзякаваць! А помніце, якой прыехала да вас?»

Ён адкладвае пісьмо— як не помніць! Маладая жанчына перанесла каля ста аперацый. Яна ні аб чым не прасіла, моўчкі падала суправаджальнае пісьмо ад калег з другой рэспублікі, у якім яны, звяртаючыся да яго аўтарытэту, вельмі прасілі дапамагчы хворай. Чым ён мог тады суцешыць жанчыну? Але і разумеў: няма нічога горшага за страту надзеі.

— Я не чараўнік, — сказаў Кручынскі, — але вельмі хачу ўбачыць вашу ўсмешку.

І рызыкнуў. Адзінае некранутае месца на твары — скуру на лбе ён таксама выкарыстаў у якасці трансплантанта. Уважліва вывучыў пераказ старадаўніх манускрыптаў — за тры тысячы год да нашай эры ў Тыбеце так спрабавалі выправіць дэфект носа. Але, як гэта зрабіць, і ці ўдавалася, напісана не было. Генрых Уладзіслававіч шукаў, але скуры бліжэй па фактуры і колеру, чым на лбе, не мог знайсці. Спецыяльнымі прыёмамі навучыўся расцягваць яе так, што праз некаторы час і слядоў перасадкі не заставалася. А нос атрымліваўся прыгожым, быццам яго такім і стварыла прырода.

І вось ужо ў Мінску працуе адзіны ў краіне семінар для хірургаў-пластыкаў, які вядзе прафесар Г. Кручынскі. Выдатныя вынікі і новыя методыкі правядзення аперацый прыцягваюць да яго ўвагу практыкаў. Ёсць у яго і своеасаблівая галерэя партрэтаў — пацыенты да і пасля аперацый. Траўмы, дарожныя здарэнні, апёкі, недарэчныя выпадковасці прывялі іх у клініку. Сотні, тысячы знявечаных твараў, з якімі не нараджаюцца. Былую прыгажосць вярнулі ім рукі Генрыха Кручынскага. Адзінае, аб чым і зараз шкадуе ён, што так і не ўдалося адшукаць таго сапёра са шпіталя. Стольќіх былых франтавікоў пазбавіў ад шрамаў, а той твар, з-за якога і выбраў ён прафесію хірурга-пластыка, усё стаіць перад вачамі.

**Лілія ЛАМСАДЗЕ.**



Гродна. Абласны драматычны тэатр.

Фота А. ПЕРАХОДА.

ЧЫТАЧЫ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ» АДКАЗВАЮЦЬ НА АНКЕТУ

# ЗАХАВАННЕ МІРУ— НАШ АГУЛЬНЫ КЛОПАТ

**Мінулы год быў аб'яўлены Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый Міжнародным годам міру. У сувязі з гэтым у верасні ў нашай газеце была апублікавана анкета «Захаванне міру — наш агульны клопат». На працягу некалькіх месяцаў мы публікавалі найбольш цікавыя адказы на яе нашых суайчыннікаў з розных краін. І сёння мы зноў звяртаемся да гэтых пісьмаў, таму што праблема захавання міру і жыцця на нашай планеце працягвае заставацца асноўнай праблемай чалавецтва. Мы спадзяёмся, што пісьмы, якія вы прачытаеце, не пакінуць абыякавымі і вас, што і вы, паважаныя чытачы, падзеліцеся сваімі думкамі аб тым, што больш за ўсё хвалюе і трывожыць сёння нас усіх, раскажаце пра свой уклад у справу ўмацавання міру на зямлі.**

Мяне глыбока ўсхвалявалі пытанні, пастаўленыя ў анкеце «Захаванне міру — наш агульны клопат», і я вырашыў напісаць вам і выказаць па іх сваё меркаванне.

Ці вядома нам аб тых кроках, якія робіць СССР у інтарэсах умацавання міру? Так, тут, у Канадзе, аб іх добра вядома. Не ведае аб гэтых кроках толькі той, хто не хоча ведаць, для каго нажыва вышэй за інтарэсы ўсяго чалавецтва. Аб усіх важнейшых ініцыятывах Савецкага Саюза паведамляецца ў прэсе, але толькі мізэрная частка таго, што было сказана на самай справе. Калі б аб іх паведамлялі таксама шырока, як, напрыклад, пра Чарнобыль ці справу Данілафа, то ў Канадзе стала б намнога менш людзей, якія з недавер'ем ставяцца да Савецкага Саюза і яго канструктыўных прапаноў па захаванню міру. І ўсё ж многія людзі і члены нашага ўрада гэтыя крокі вітаюць і адабраюць. Усе прагрэсіўныя канадцы выступаюць супраць палітыкі ЗША і іх саюзнікаў, накіраванай на развіццё гонкі ўзбраенняў, на ажыццяўленне праграмы «зорных войнаў». Зброя не можа гарантаваць мір. Таму мы вітаем прапанову СССР знішчыць усе ядзерныя ўзбраенні да 2000 года. Аднабаковы мараторый Савецкага Саюза на ядзерныя выпрабаванні пераканаў у шчырасці палітыкі СССР вельмі многіх людзей, якія раней сумняваліся. І барацьбітоў за мір у Канадзе стала значна больш. Цяпер ужо ніхто не верыць у тое, што дасягненне ваеннай перавагі над нашай Радзімай будзе нібыта садзейнічаць умацаванню міру. Гэтыя дзіцячыя казкі даўно ўстарэлі. І час палітыкі з пазіцыі сілы даўно мінуў.

Барацьба за мір набірае ўсё большы размах і ў Канадзе. Створаны Усеканадскі кангрэс міру, куды ўваходзіць і наша арганізацыя ФРК. Ён праводзіць мітынгі і дэманстрацыі, арганізоўвае збор подпісаў пад антываеннымі адозвамі. Адным словам, робіць усё магчымае, каб захаваць мір, дарагі ўсім людзям.

**Уладзімір ХІЛЬЧУК.**
Канада.

***

Паважаная рэдакцыя «Голасу Радзімы»! Некаторы час назад на старонках вашай газеты вы прапанавалі падзяліцца думкамі аб тым, як можна захаваць мір на зямлі. Гэта праблема вельмі хвалюе нас, суайчыннікаў, якія жывуць у Галандыі. Усе свае надзеі на будучыню мы звязваем з нашай Радзімай, з вялікім Савецкім Саюзам. Ужо многа год мы бачым, што СССР робіць усё магчымае, каб ліквідаваць пагрозу вайны, назаўсёды забяспечыць мір для чалавецтва. Ні адна іншая краіна не робіць столькі ў гэтым напрамку. Мы з вялікай цікавасцю прачыталі Заяву Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова і парадаваліся таму, што ёсць магчымасць праз 15 год пазбавіцца ад ядзернай зброі і ўвайсці ў другое тысячагоддзе з мірам. Аднак гэта не задавальняе ўрад ЗША, які ўсяляк супраціўляецца міралюбівым ініцыятывам СССР і працягвае вар'яцкую палітыку гонкі ўзбраенняў і нагнятання міжнароднай напружанасці. Але ўсе народы свету, у тым ліку і Галандыі, не хочуць вайны. Тут часта бываюць дэманстрацыі прыхільнікаў міру, у якіх актыўны ўдзел прымаюць і суайчыннікі. Мы супраць палітыкі прэзідэнта Рэйгана, супраць ядзернай вайны. І хочам, каб нашы галасы таксама ўліліся ў шматмільённы голас чалавецтва, якое заклікае: «Далоў вайну! Няхай будзе жыццё!»

**Надзея ГАЛІЁНКА.**
Галандыя.

***

У вашай газеце я заўсёды знаходжу нешта цікавае для сябе. Зразумела, што і анкета «Захаванне міру — наш агульны клопат» не пакінула мяне абыякавым. Сапраўды, пытанне захавання міру зараз стала галоўным для чалавецтва. І вельмі шкада, што буржуазныя сродкі масавай інфармацыі не надаюць яму належнай увагі. У сувязі з гэтым хачу паведаміць вам аб вельмі значнай падзеі ў жыцці прагрэсіўнага насельніцтва нашай краіны. Зараз у Аўстраліі мы атрымалі магчымасць чытаць газету «Правда» на англійскай мове. Савецкае выданне расказвае на сваіх старонках не толькі пра жыццё ў СССР, а і ў іншых краінах свету. Распаўсюджвае газету выдавецтва «С. Гулен». Шырокія слаі працоўнага насельніцтва Аўстраліі стаміліся ад прапаганды буржуазнай прэсы, старонкі якой запаўняюць расказы пра насілле, наркаманію, забойствы, грабяжы, беспрацоўе, інфляцыю і іншыя «дасягненні» капіталістычнага свету. Тыя часопісы сеюць нянавісць да савецкага народа, да яго ладу жыцця, намагаюцца пераканаць чытачоў у ваяўнічасці і агрэсіўнасці Краіны Саветаў. «Правда» стала даступнай шырокаму колу аўстралійскіх чытачоў. Універсітэты, школы, бібліятэкі, арганізацыі руху за мір, рабочы клас і нават прадстаўнікі бізнесу праявілі вялікую цікавасць да савецкай газеты. Вельмі радаснай падзеяй стала гэта і для нашых замежных суайчыннікаў, якія жывуць тут. Зараз з дапамогай гэтага выдання яны ў сваіх гутарках з грамадзянамі Аўстраліі могуць пацвердзіць, што ў СССР не існуе беспрацоўя, інфляцыі, што для савецкага народа і яго ўрада прыярытэтным у адносінах з іншымі дзяржавамі з'яўляецца мірнае суіснаванне, узаемавыгаднае супрацоўніцтва і дружба. Першы тыраж газеты, якая нясе светлае слова праўды на аўстралійскую зямлю, склаў 100 тысяч экземпляраў.

**Гары ТОМСАН-ТРАБІЦКІ.**
Аўстралія.

Што? * Як? * Чаму?

# ПРАФІЛАКТЫКА ЗАХВОРВАННЯЎ

Даўно вядомы факт: хваробу значна лягчэй папярэдзіць, чым лячыць. Таму ахова здароўя рэспублікі ўдзяляе самую пільную ўвагу прафілактычнай рабоце з насельніцтвам. Вось што напісаў у сваёй кнізе «Савецкі Саюз вачыма амерыканца (Гарады без крызісаў)» амерыканскі журналіст Майк Дэвідаў: «Людзям не толькі напамінаюць пра гэта, але і абавязваюць праходзіць рэгулярны медыцынскі агляд. Нягледзячы на наяўнасць дастатковай колькасці лячэбных устаноў, многія савецкія людзі яшчэ несур'ёзна ставяцца да свайго здароўя. Страх перад тым, што ў іх «нешта» знойдуць, стрымлівае людзей ад наведвання ўрача. З гэтай мэтай устаноўлена перыядычнае медыцынскае абследаванне. За такой, здавалася, фармальнай працэдурай стаіць клопат аб чалавеку. «Мае абавязкі ў адносінах да пацыентаў не абмяжоўваюцца іх лячэннем у час хваробы. Насупраць, я абавязаны сачыць за тым, каб яны не захварэлі», — сказаў мне адзін савецкі ўрач».

Асаблівая ўвага ўдзяляецца ў Беларусі прафілактыцы інфекцыйных захворванняў. Ужо многія гады не назіралася выпадкаў эпідэмій. Для параўнання напомнім, што ў 1944 годзе, пасля вызвалення ад фашысцкіх захопнікаў, у Беларусі было каля 95 тысяч хворых на сыпны тыф і больш за 10 тысяч на брушны тыф, каля 250 тысяч хворых на малярыю. Цяпер гэтых хвароб практычна няма. У далёкую мінуўшчыну адышлі тыя гады, калі лютаваў і забіраў тысячы жыццяў страшны вораг чалавецтва — туберкулёз. Барацьба з ім і лячэнне арганізаваны так, што хранічна хворых становіцца ўсё менш, а смерць ад туберкулёзу — сапраўдная рэдкасць. На ўсіх прадпрыемствах, у дзіцячых установах, вёсках праводзіцца флюараграфія — абавязковае рэнтгенаўскае абследаванне лёгкіх. Выяўленыя ў час гэтых абследаванняў хворыя з ранімі формамі туберкулёзу неадкладна гаспіталізуюцца. Некалькі месяцаў яны лечацца ў стацыянары, потым у санаторыі. Увесь гэты час ім выплачваецца дапамога па бальнічнаму лістку ў размеры іх заработнай платы. Затым на працягу некалькіх год яны пільна назіраюцца ўрачамі і здымаюцца з уліку толькі тады, калі ўрачы поўнасцю ўпэўнены ў іх выздараўленні. Дзякуючы поспехам беларускіх урачоў, у рэспубліцы ліквідаваны такія інфекцыйныя захворванні, як воспа, дыфтэрыт, поліяміэліт, трахома. Значна зніжана захворванне адзёрам, коклюшам. Штогод у рэспубліцы праводзіцца каля 10 мільёнаў прафілактычных прывівак.

На прадпрыемствах не радзей аднаго разу ў год урачэбнымі брыгадамі, у складзе якіх розныя спецыялісты, праводзяць прафілактычныя агляды рабочых з мэтай не дапусціць узнікнення прафесійных захворванняў. Вядзецца строгі катроль за захаваннем неабходных гігіенічных норм у цэхах. У выпадку іх парушэння на адміністрацыю цэха ці завода накладваецца спагнанне.

Вялікую ролю ў прафілактычнай рабоце сярод насельніцтва адыгрываюць санітарна-эпідэміялагічныя станцыі, якія ажыццяўляюць строгі кантроль за прадпрыемствамі грамадскага харчавання, за захаваннем санітарна-гігіенічных норм пры будаўніцтве жылых масіваў і прамысловых прадпрыемстваў, за сістэмай водазабеспячэння і каналізацыі. Санітарныя работнікі старанна сочаць і за сістэмай імунапрафілактыкі. Усе санітарна-эпідэміялагічныя станцыі рэспублікі маюць сучасныя лабараторныя базы і абсталяванне.

Прафілактыка захворванняў, кантроль за здароўем насельніцтва рэспублікі заўсёды былі ў цэнтры ўвагі нашай медыцыны, але ніколі раней на гэта не асігноўвалася столькі сродкаў, як сёння. У краіне пачала ажыццяўляцца праграма ўсеагульнай штогадовай дыспансерызацыі насельніцтва. Гэта значыць, што ўсіх жыхароў гарадоў і вёсак штогод будуць аглядаць урачы асноўных медыцынскіх спецыяльнасцей. Гэта дазволіць своечасова выяўляць пачатковыя, часам непрыкметныя для самога чалавека сімптомы захворванняў і своечасова пачынаць лячэнне, каб не даць развіцца хваробе.



У вёсцы Вялікая Ухалода Барысаўскага раёна здадзена ў эксплуатацыю новая двухпавярховая паліклініка. Яна пабудавана на сродкі саўгаса «Гвардыя».
НА ЗДЫМКУ: у водагразелячэбніцы паліклінікі.

Фота У. АЛЯШКЕВІЧА.

# ВІНШУЮЦЬ ЗЕМЛЯКІ

Сардэчна віншуем Прэзідыум і ўсіх супрацоўнікаў Беларускага таварыства «Радзіма», рэдакцыі газеты «Голас Радзімы» з Новым, 1987 годам!

Ад шчырага сэрца жадаем яшчэ большых поспехаў у вашай нялёгкай, але высакароднай дзейнасці па лініі культурных сувязей з суайчыннікамі за рубяжом. Няхай сувязі паміж намі мацнеюць і развіваюцца на карысць міру, узаемаразумення і дружбы народаў Канады і Савецкага Саюза.

Шчасця вам, сябры, і поспехаў у вашых добрых справах!

Галоўнае праўленне Федэрацыі рускіх канадцаў.
Старшыня Антон КУЛЬЧЫН,
Сакратар Аляксандра ЮРОЎСКАЯ.

Канада.

Паважаная рэдакцыя газеты «Голас Радзімы»!

Ад усёй душы хачу павіншаваць вас з Новым, 1987 годам і пажадаць шчасця і здароўя, поспехаў у вашай рабоце, а галоўнае, міру ва ўсім свеце.

Асабліва хачу вам падзякаваць за прысылаемую мне газету «Голас Радзімы», якую заўсёды чытаю з вялікай увагай і цікавасцю. Больш за ўсё мне падабаюцца артыкулы аб Палессі, аб маёй роднай Піншчыне.

Дзмітрый ЯФРЭМАЎ.

Аргенціна.

Прыміце ад удзячнага чытача ўрачысты зямны паклон рэдакцыі «Голасу Радзімы» з выпадку Новага, 1987 года! Няхай ваша творчае слова і надалей будзе для нас, суайчыннікаў на чужыне, як хлеб, без якога нельга абысціся. Няхай зноў і зноў яно сцвярджае ў нас любоў да Радзімы і імкненне да міру на зямлі! Няхай развіваецца і працвітае славянская культура! Няхай заўсёды і ўсюды будзе мір на планеце Зямля!

Юрый РАСАДЗІНСКІ.

Аўстралія.

Дарагія сябры ў рэдакцыі газеты «Голас Радзімы»!

Віншуем вас і нашу мілую Радзіму — Беларусь з Новым годам! Мы сустракаем яго з новымі надзеямі на захаванне міру на зямлі. Мінуў трывожны 1986 год, а што чакае нас у 1987 годзе і ў будучыні, залежыць ад нас саміх. Няхай жа больш згуртаванымі становяцца рады барацьбітоў за мір, і сумеснымі намаганнямі мы знішчым пагрозу вайны!

Ірына і Аляксей ГРЫЦУКІ.

Канада.

Дарагія суайчыннікі!

Праўленне і члены аддзела ССГБ г. Шарлеруа сардэчна віншуюць сяброў і супрацоўнікаў Беларускага таварыства «Радзіма», рэдакцыі газеты «Голас Радзімы», увесь савецкі народ з Новым, юбілейным 1987 годам!

Няхай у год 70-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі яшчэ ярчэй гарыць над светам пяціканцовая зорка і як маяк указвае шлях да міру і дружбы народаў!

З павагай

ад імя членаў аддзела ССГ
г. Шарлеруа
Марыя ГАРОХ.

Бельгія.

Паважаныя суайчыннікі ў рэдакцыі «Голасу Радзімы» і таварыстве «Радзіма».

Віншуем вас і ўвесь беларускі народ з радасным святам — Новым годам. Жадаем усім вам шчасця, здароўя і добрых поспехаў у вашай плённай рабоце, у барацьбе за мір.

Са шчырым прывітаннем

Уладзімір і Марыя ХІЛЬЧУКІ.

Канада.

Прыміце самыя найлепшыя пажаданні ў Новым, 1987 годзе! Няхай ён і ўсе наступныя будуць гадамі міру!

Ларыса ТАРВІК.

Канада.

Праўленне і члены аддзела Федэрацыі рускіх канадцаў горада Таронта віншуюць супрацоўнікаў Таварыства «Радзіма» і рэдакцыі газеты «Голас Радзімы» з Новым годам!

Шлём усім самыя найлепшыя пажаданні ў жыцці: моцнага здароўя, асабістага шчасця, поспехаў у працы, у барацьбе за трывалы мір, дружбу і ўзаемаразуменне паміж народамі ўсёй зямлі.

Няхай будзе мір, мір і яшчэ раз мір!

Сакратар аддзела ФРК
Кацярына ЗВАНАРОВА.

Канада.



На лыжні. Фота У. ПЯТРОВА.

### СПОЎНІЛАСЯ 150 ГАДОЎ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ВАЛЕРЫЯ УРУБЛЕЎСКАГА

# ГЕНЕРАЛ ПАРЫЖСКІХ БАРЫКАД

У 1889 годзе ў Парыжы адбыўся ўстаноўчы сход кангрэса II Інтэрнацыянала. Яго ўдзельнікі ўрачыста віталі герояў Парыжскай Камуны, што засталіся ў жывых, сярод якіх быў і наш зямляк, праслаўлены генерал Камуны Валерый Антоній Урублеўскі.

Вядомы рэвалюцыянер, адзін з актыўных арганізатараў і кіраўнікоў паўстання 1863—1864 гадоў, блізкі сапратнік Кастуся Каліноўскага, герой Парыжскай Камуны В. Урублеўскі нарадзіўся 27 снежня 1836 года ў мястэчку Жалудок Лідскага павета Віленскай губерні (цяпер Гродзенская вобласць) у сям'і шляхціца.

У 1853 годзе ён скончыў Віленскую гімназію і паступіў вучыцца ў Пецярбургскі лясны інстытут, пасля працаваў інспектарам лясной школы ў Саколцы Гродзенскай губерні.

Яшчэ ў дзяцінстве Валерый бачыў, як здзекаваліся з прыгонных сялян памешчыкі. І ўжо тады пранікся павагай да сялянскай працы і бязмернай нянавісцю да прыгоннага права.

У студэнцкія гады ў Пецярбургу Валерый становіцца на шлях рэвалюцыйнай барацьбы супраць прыгоннага права і яго апоры—царскага самадзяржаўя, уваходзіць у рэвалюцыйны гурток Сігізмунда Серакоўскага, які стаяў на пазіцыях рэвалюцыйных дэмакратаў. Гурткоўцы знаёміліся з творамі А. Герцэна, М. Агарова, В. Бялінскага, М. Чарнышэўскага, М. Дабралюбава.

Пасля прыезду на Гродзеншчыну В. Урублеўскі актыўна працягваў рэвалюцыйную дзейнасць, не парываючы кантактаў са сваімі пецярбургскімі аднадумцамі. У 1861—1863 гадах ён разам з Кастусём Каліноўскім прымаў непасрэдны ўдзел у стварэнні рэвалюцыйнай арганізацыі ў Гродне. У гэты перыяд яны энергічна рыхтавалі народныя масы да паўстання. З 1862 па 1863 год выпускалі і распаўсюджвалі першую беларускую нелегальную газету «Мужыцкая праўда», якая пісала пра невыносна цяжкія ўмовы жыцця беларускіх сялян і заклікала іх да барацьбы супраць памешчыкаў і царскага ўрада.

В. Урублеўскі быў страсным прапагандыстам рэвалюцыйных ідэй, разгарнуў шырокую дзейнасць па прыцягванню новых членаў у сваю нелегальную арганізацыю, дапамагаў ствараць заканспіраваныя бібліятэкі забароненых кніг рэвалюцыйнага зместу.

У час паўстання 1863—1864 гадоў ён стаў адным з яго актыўных арганізатараў і кіраўнікоў. Першапачаткова Валерый Урублеўскі камандаваў паўстанцкімі атрадамі, быў начальнікам штаба паўстанцкіх сіл, а потым яго прызначылі ваяводай на Гродзеншчыне. Пад яго камандаваннем паўстанцы, рады якіх хутка раслі, паспяхова змагаліся з праціўнікам, неаднаразова прымушалі карнікаў ратавацца ўцёкамі. У той жа час ён праяўляў клопат аб паляпшэнні жыцця мясцовых жыхароў, дабіваўся бясспрэчнага выканання Маніфеста паўстанцкага ўрада аб надзяленні сялян зямлёй. Для кантролю за гэтым арганізаваў спецыяльныя перасоўныя групы паўстанцаў.

У студзені 1864 года каля вёскі Усцімава, непадалёку ад Любліна, Валерый Урублеўскі быў цяжка паранены ў галаву і плячо. Ворагі палічылі яго забітым. Але мясцовыя сяляне аказалі Урублеўскаму першую дапамогу і перавезлі ў маёнтак арандатара Клаўдзія Складоўскага, дзе ён некаторы час лячыўся. Калі рэвалюцыянер крыху паправіўся, ён папрасіў хутчэй пераправіць яго цераз аўстрыйскую граніцу. У верасні 1864 года Урублеўскі ўжо быў у Парыжы.

Царскі ваенны суд у Гродне 22 жніўня 1864 года завочна прыгаварыў Валерыя Урублеўскага да пакарання смерцю.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

### НА ПРОСТОРАХ РОДИНЫ

# ВИТРАЖИ ЛАТВИИ

Недалеко от полноводной и широкой Даугавы, в центре Старой Риги, возвышается Домский собор. Сейчас здесь музей и концертный зал, куда ходят любители органной музыки. Но если вас интересует такой древний вид искусства, как витражи, то вы, нахо-[illegible] в Риге, тоже придете [illegible]омский собор...

Чудесная игра цвета и света, которую создавали витражи, издревле привлекала людей. Многие даже полагали, что солнечные [illegible], проникая в помеще-[illegible] сквозь цветное стекло, приобретали более интенсивный, магический блеск: витражи считались продуктом сплава драгоценных камней.

Когда были созданы первые витражи, сказать трудно. Известно, что применение цветных стекол для украшения окон началось с того времени, когда христианство стало государственной религией в Римской империи. Это было в конце IV столетия нашей эры. А в XIII веке витражи появляются в Прибалтике, где шел интенсивный процесс насильственного насаждения католицизма германскими крестоносцами. Территория нынешней Латвии становится одним из центров изготовления витражей.

Бóльшая часть сохранившихся витражей находится в настоящее время в Риге. Они встречаются в храмах, музеях, институтах, правительственных и жилых зданиях. Есть они и в других городах республики, преимущественно в церквах.

Тематика латышских витражей очень разнообразна. В церквах это преимущественно религиозные сюжеты, хотя, как это имеет место в Домском соборе и в церкви Иоанна, встречаются и светские темы. В общественных и жилых зданиях на витражах изображены эпизоды из рыцарских подвигов, борьбы горожан с феодалами, сцены из народного эпоса, трудовые процессы, а также геральдические, аллегорические, портретные и иные композиции.

Древних витражей в Латвии мало. Большинство из сохранившихся относится к XIX — началу XX столетия. Часть витражей Домского собора погибла в годы Великой Отечественной войны. Среди оставшихся выделяется композиция «Епископ Альберт закладывает первый камень Риги».

Все витражи для этого собора были изготовлены в конце прошлого столетия в рижских мастерских Тоде и Калерта Вебера. Мастерская художника Тоде в свое время изготовила большое количество высокохудожественных витражей для Петербурга, Москвы, Киева, Одессы и других русских городов.

В начале нашего века рижский художник Карл Бренцен создал ряд выдающихся витражей, в том числе «Петр Великий» и «Вечерний пейзаж», которые находятся в Ленинграде, а также витраж «Лачплесис», являющийся замечательным произведением витражного искусства. Лачплесис — народный латышский герой. На витраже изображено его единоборство с Черным рыцарем.

По рисункам художника Ансиса Тирулиса выполнены четыре аллегорических витража, которые экспонировались на международной выставке в Париже в 1937 году. Ныне они находятся в концертном зале Рижской филармонии. Они олицетворяют ремесло, кораблестроение, строительство и торговлю.

После освобождения от гитлеровцев в Латвии возобновилось витражное искусство. Уже в 1948 году латышский художник Вейланд создал мозаичные витражи для здания Постоянного представительства Латвии в Москве. В 1951 году в Риге была создана витражная мастерская, объединившая витражистов-художников и мастеров-исполнителей, при Рижском училище прикладного искусства открылось специальное отделение.

Витражное искусство в современной Латвии переживает вторую молодость. Советские художники совместно с архитекторами стремятся шире использовать витражи в украшении различных зданий. Вслед за Ригой витражные мастерские появляются в Вильнюсе и других городах нашей страны.

Лана СКУИНЯ.
(АПН).

# ПАЧЫНАЛЬНІКІ

*ДА 80-ГОДДЗЯ ВЫДАВЕЦКАЙ СУПОЛКІ «ЗАГЛЯНЕ СОНЦА І Ў НАША АКОНЦА»*

ПАВАРОТНЫМ этапам у жыцці Беларусі, як і ўвогуле ў гісторыі ўсёй царскай Расіі, стала рэвалюцыя 1905 — 1907 гадоў. Як пісаў Ленін, яна «абудзіла да палітычнага жыцця і да палітычнай барацьбы мільёны рабочых і дзесяткі мільёнаў сялян». Магутныя хвалі рэвалюцыі ўзнялі беларускі народ на актыўную барацьбу за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, страсянулі і раскатурхалі заспаную нацыянальную свядомасць шырокіх народных мас, стымулявалі небывалую датуль актыўнасць працоўных. Бурлівыя рэвалюцыйныя падзеі ўзнялі з народных глыбінь і паставілі на чале беларускага нацыянальна-рэвалюцыйнага руху Янку Купалу і Якуба Коласа, якія з найвялікшаю сілаю выказалі ў родным слове мары і імкненні свайго народа, клікалі яго на святую барацьбу за лепшую будучыню.

Свабода друку, хоць і часовая, абмежаваная рознымі пунктамі і ўдакладненнямі, была велізарнай заваёвай рэвалюцыі. Нацыянальна-вызваленчая барацьба падштурхнула і ажывіла разгортванне змагання за стварэнне школы на роднай мове, выданне беларускіх падручнікаў, кніг, газет, часопісаў. У Пецярбургу і Вільні закладваюцца першыя выдавецкія таварыствы, пачынаюць выходзіць першыя легальныя беларускія газеты «Наша доля», «Наша ніва», друкуюцца навукова-папулярныя кніжкі.

Адной з найважнейшых праяў літаратурна-грамадскага руху ў Пецярбургу стала заснаванне беларускай выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца», якая існавала легальна і ўпершыню ў гісторыі нашага кнігадрукавання пачала выдаваць кнігі сістэматычна. Суполка была заснавана 5 (18) мая 1906 года па ініцыятыве выкладчыка Пецярбургскага універсітэта Браніслава Эпімах-Шыпілы, які ўзначаліў кантору арганізацыі, а затым і склад размясціў на сваёй кватэры. Арганізатарамі суполкі былі студэнт Горнага інстытута В. Валейка, чыноўнік У. Сталыгва, інжынер-тэхнолаг Ю. Іваноўскі, настаўнік У. Калашэўскі і іншыя. Супольнікамі новай арганізацыі маглі быць асобы, якія ўнясуць 10 рублёў узносу. Першы пункт умовы, якая была зацверджана 13 мая 1906 года і мела сілу да 1 студзеня 1909-га, сцвярджаў: «Таварыства ўстанаўляецца для таго, каб друкаваць і шырыць памеж людзёў ксёнжкі беларускія і ўсё, што датыча Беларусі».

Першай кніжкай, якую выдала суполка, быў буквар — «Беларускі лемантар, або Першая навука чытання» (выйшаў ананімна, але аўтарам яго лічаць К. Каганца). Пад № 2 было надрукавана «Першае чытанне для дзетак беларусаў» Цёткі — хрэстаматыя, якая стала пэўным працягам лемантара і была разлічана на дзяцей першага класа. Ва ўмовах, калі не існавала беларускай школы, калі мала хто трымаў у руках кніжку, надрукаваную па-беларуску, выданне гэтых кніжак было амаль сенсацыйным, мела неверагодна вялікае грамадскае і палітычнае значэнне.

Памятаючы пра дзве катэгорыі чытачоў, адны з якіх вучыліся па-руску, а другія спасцігалі польскую грамату, суполка выдавала кнігі як кірыліцай («Жалейка», «Шляхам жыцця», Янкі Купалы, усе драматычныя творы), так і лацінкай (усе творы В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, «Пан Тадэвуш» А. Міцкевіча), некаторыя асобна кірыліцай і асобна лацінкай («Беларускі лемантар», «Першае чытанне» Цёткі), а некаторыя двума шрыфтамі адначасова (тры альманахі «Маладая Беларусь»). Такое становішча было не на карысць выдавецтву, бо патрабавала дадатковых сродкаў, але на той час пазіцыя суполкі была правільнай: яна ўлічвала гістарычныя ўмовы развіцця беларускага грамадства, канкрэтную сітуацыю.

Як лемантар, так і «Першае чытанне» былі ўкладзены на жывой народнай аснове, на грунце жыцця беларускай вёскі, яе побыту і нораваў, малюнкаў прыроды.

Абставіны склаліся так, што наступны падручнік — «Другое чытанне для дзяцей беларусаў» Якуба Коласа з'явіўся толькі ў канцы 1909 — пачатку 1910 года. Гэта была хрэстаматыя для вучняў пачатковай школы. Яе склалі апавяданні, вершы, замалёўкі самога Коласа, а таксама апрацаваныя ім народныя казкі. Сем раздзелаў чытанкі прысвечаны порам года — вясне, лету, восені, зіме, іх прыкметам і асаблівасцям. Аўтар умела малюе вобразы роднага краю, паказвае побыт і працу людзей. І не проста паказвае. За дакладнымі, каларытнымі дэталямі і апісаннямі — рэальнае жыццё беларускага селяніна, тыя сацыяльныя кантрасты, якія прыніжалі чалавечае жыццё ў дарэвалюцыйнай беларускай вёсцы, зводзілі на нішто ўсе старанні мужыка-працаўніка, аратага і сейбіта, таго, чыімі рукамі здабываліся ўсе даброты на зямлі. Чалавек-працаўнік тут добры, разумны, шчыры, сціг[illegible] але не вольны, прыніжаны, [illegible]рыгнечаны несправядлівы[illegible] сацыяльнымі ўмовамі несправядлівага ладу. Дзеці самі заўважалі, як не вяжацца, як кантрастуе прыгажосць прыроды з цяжкім жыццём про[illegible]га чалавека, які пазбаўл[illegible] права любавацца ўсім гэты[illegible], ён павінен ведаць толькі адно — працаваць на багатага. Аўтар проста і задушэўна гаворыць дзецям аб складаных рэчах, праўдзіва паказвае сапраўдныя прычыны беднасці сялян. З глыбокім веданнем псіхалогіі дзяцей, таго, што кранае душу малечы, Колас-настаўнік узнёсла, паэтычна, яркімі фарбамі малюе прыроду краю, паэтызуе працу, выяўляе характэр жыцця ў розных яго праявах, сцвярджае сапраўдныя, высокія маральна-этычныя вартасці простага чалавека, яго патрыятызм, сумленнасць, дабрыню, непрымірымасць да зла і несправядлівасці і гэтым самым як вопытны, спрактыкаваны настаўнік-педагог, назіральны мастак-пісьменнік вучыць дзяцей, выхоўвае ў іх душах праўдзівасць і спагаду, дабрыню і актыўныя адносіны да жыцця, любоў да звера і птушкі, кусціка і травіцы на полі.

У 1906 годзе суполка «Загляне сонца і ў наша аконца» выдала серыю з 10 беларускіх паштовак, ці, як тады казалі, «пісулек»: «Вінцук Марцінкевіч — пясняр беларускі», «Янка Лучына — пясняр беларускі», «Францішак Багушэвіч (М. Бурачок) — пясняр беларускі», «Мужыкі з-пад Слуцка», «Шчарсуны ўлетку» (шчарсуны — жыхары вёскі Шчорсы на Навагрудчыне. — **Я. С.**), «Шчарсуны ўзімку», «Парабковая дворная хата», «Дудар беларускі», «Вясковая баба з Трыбужкоў» (у Слонімскім павеце — **Я. С.**), «Дом Т. Касцюшкі ў Марачоўшчыне». Потым былі надрукаваны яшчэ «Беларуская біблія XVI в.», «Апостал Скарыны», «Беларускае евангелле XV в.», «Беларускі псалтыр XVII в.», «Беларускі тып», «Селянін з-пад Мінска», «Арба валамі на Палессі», «Полудзень жанцоў на Палессі», «Беларускі жыд», «Мужыкі з-пад Пухавіч», «Торжышча ў Пухавічах», «Дзяўчаты з-пад Слуцка», «Белавежская пушча». Як бачым, і тут была пэўная мэтанакіраванасць: і паказаць чытачу-пакупніку, што беларусы даўно маюць сваю літаратуру, сваіх славутых песняроў, свае рукапісныя кнігі яшчэ з XV стагоддзя, і раскрыць этнаграфічную адметнасць розных рэгіёнаў краю праз народныя тыпы, адзенне, прыроду, палявыя работы, і падкрэсліць — вось наша спадчына, наша гісторыя, яна не такая мізэрная, як стараліся даказваць многія многа разоў, і ты ўжо і сам паверыў, што ў нас нічога няма, і г. д.

15 верасня 1906 года ў № 3 «Нашай долі» паведамлялася пра выдадзеныя суполкай кніжкі і паштоўкі. 24 лістапада ў № 3 новай газеты «Наша ніва» аб'ява гэта была паўторана. Было тут змешчана і паведамленне пра хуткі выхад з друку навукова-папулярнай брашуры «Гутарка аб небе і зямлі» (выйшла ў 1907 годзе, пераклад на беларускую мову К. Кастравіцкага і С. Шаўлоўскага) і «Жалейкі» Янкі Купалы (гэта было першае паведамленне ў беларускім друку пра Я. Купалу і яго зборнік паэзіі: выйшаў ён толькі ў сакавіку 1908 года, стаўшы першай беларускай арыгінальнай, аўтарскай мастацкай кніжкаю выдавецтва). Акрамя выдання і продажу сваіх кніг суполка ўзяла на камісію і пачала прадаваць ранейшыя беларускія кнігі (у аб'яве гаварылася пра выдадзены ў 1903 годзе зборнік Я. Лучыны «Вязанка» і зборнік 1904 года «Казкі») і кнігі пра Беларусь на рускай і польскай мовах (найперш выданні І. Насовіча, Е. Раманава, П. Шэйна, М. Нікіфароўскага, У. Дабравольскага, М. Доўнар-Запольскага, Я. Карскага і іншых).

2 снежня 1906 года «Наша ніва» паведаміла пра падрыхтоўку суполкай да выдання падпіснай серыі «Беларускія песняры» ў 8 тамах. Планавалі выдаць «Дудку беларускую», «Смык беларускі» і «Скрыпачку беларускую» Ф. Багушэвіча, у перакладзе В. Дуніна-Марцінкевіча дзве першыя былінцы паэмы А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш», якія калісьці былі канфіскаваны царскай цэнзурай, «Гапон», «Вечарніцы», «Шчароўскія дажынкі» і «Купалу» В. Дуніна-Марцінкевіча (праўда, пасля выйшла 6 кніг: не была выдадзена «Скрыпачка беларуская» Багушэвіча, а «Шчароўскія дажынкі» і «Купалу» аб'ядналі ў адзін том). Тыраж кожнай кніжкі складаў 4 300 экземпляраў.

Выданнем твораў В. Дуніна-Марцінкевіча і забароненых у Расіі твораў Ф. Багушэвіча суполка не толькі нагадвала старэйшаму пакаленню пра беларускую літаратуру XIX стагоддзя, але і паказвала моладзі, якія буйныя постаці беларускіх паэтаў былі ў нашым прыгожым пісьменстве, што ўжо на той час сталі фактычна яго класікамі. Гэтыя выданні таксама паказалі маладым літаратарам, якія часцей і часцей заяўлялі пра сябе, што яны выраслі не на пустым месцы, што ім ёсць у каго вучыцца, пераймаць вопыт, пашыраць і ўдасканальваць дасягнутае, у новых гістарычных умовах развіваць немалую літаратурную традыцыю на новым ідэйна-эстэтычным узроўні. І ў гэтым быў велізарны грамадскі сэнс зробленага суполкай «Загляне сонца і ў наша аконца».

Хоць суполка «Загляне сонца і ў наша аконца» і не лічылася нелегальнай і забарона з беларускай мовы знята, выданне беларускіх кніг і тым больш іх шырокае распаўсюджанне было і псіхалагічна, і палітычна непажаданай з'явай для царскіх чыноўнікаў. Не паспелі паявіцца першыя выданні суполкі, як гэта адразу адчулася, азвалася. 22 верасня 1908 года А. Кемерлінг—старшыня Віленскага часовага камітэта па справах друку — пасылае ў Пецярбургскі камітэт па справах друку купалаўскую «Жалейку» і багушэвіцкую «Дудку» і «Смык» з запытаннем, «могут ли они быть допущены к обращению». Пецярбургскія чыноўнікі накіравалі пракурору Пецярбургскай судовай палаты данясенне на гэтыя зборнікі з просьбай кнігі арыштаваць, вінаватых у надрукаванні прыцягнуць да адказнасці, а супраць аўтараў і «іншых асоб, якія могуць аказацца вінаватымі», распачаць судовае праследаванне.

Але выдаўцы не драмалі. Былі зроблены адпаведныя захады, і з «Жалейкі» арышт быў зняты ўжо 10 лістапада 1908 года. А Багушэвічавы кнігі засталіся пад арыштам, які быў зняты толькі 23 лістапада 1910 года, а ў продаж кніжкі пайшлі толькі ў наступным годзе.

Такім [illegible]ам, кнігі не прадаваліся, [illegible]алі на складзе. Значыць, грошы за іх не маглі паступаць выдаўцам, якія павінны былі аплачваць новыя выданні. Так цэнзурныя рэпрэсіі негатыўна адбіліся на фінансавых справах суполкі. Работу таварыс[illegible] трэба было перабудоўвац[illegible]м больш, што першага студзеня 1909 года канчаўся і тэрмін першай умовы.

Новая ўмова на працяг дзейнасці суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца» была складзена толькі 30 красавіка 1909 года.

А 18 чэрвеня на чале суполкі часова стаў яе ранейшы «кнігавод»-бухгалтар Антон Грыневіч, які і раней з усім жарам душы аддаваўся справе выдання беларускіх кніг. Выйшла падпісная серыя «Беларускія песняры», якую выдавецтва было вінавата падпісчыкам, выпусцілі «Другое чытанне» Якуба Коласа, рукапіс якога ўжо даўно быў у выдавецтве.

З 1905 года па ўсёй Беларусі пачалі актыўна наладжвацца так званыя беларускія вечарынкі — вечары беларускай нацыянальнай культуры, у праграмы якіх уваходзіла выкананне хорам беларускіх народных песень, танцаў, чытанне беларускіх вершаў, пастаноўка спектакляў. Арганізоўвалі іх музычна-драматычныя гурткі, якія існавалі ў Вільні, Мінску, Гродне, Полацку, Слуцку, Капылі, Радашковічах, Дзісне, Празароках і іншых месцах.

Удзельнікам беларускіх вечарынак патрэбен быў адпаведны рэпертуар, асабліва тэксты п'ес, песні з нотамі. Пра гэта не раз пісала «Наша ніва». Суполка «Загляне сонца і ў наша аконца» добра ведала патрэбы самадзейных калектываў. Ідучы ім насустрач, у 1910 годзе яна выдала вадэвіль Каруся Каганца «Модны шляхцюк», які і дасюль карыстаецца ўвагаю нашай самадзейнай сцэны, а таксама перакладныя драматычныя творы: М. Крапіўніцкага, Э. Ажэшкі, А. Чэхава. У 1911-м былі надрукаваны камедыя Далецкіх «Міхалка», «Па рэвізіі» Крапіўніцкага, у 1912-м — «Хам» Ажэшкі, у 1913-м — славутая купалаўская «Паўлінка» і жарт А. Валодзькаскага «Як яны ажаніліся», а ў 1914-м — «Мядзведзь» А. Чэхава. Усе гэтыя п'есы часта ставіліся, і выданні суполкі здорава памаглі станаўленню беларускага нацыянальнага тэатра.

Разгарнуць шырэй выданне беларускіх драматычных твораў суполцы не дазволіла імперыялістычная вайна, якая і стала прычынай закрыцця выдавецтва. А пра тое, што рабіліся захады, каб ажывіць, павялічыць выданне драматычных твораў, сведчыць конкурс, які быў аб'яўлены ў чэрвені 1913 года ў «Нашай ніве». Цікава, што за лепшыя творы для сцэны дакляраваліся нават грашовыя ўзнагароды.

Колькасць беларускіх пісьменнікаў, якія пісалі вершы, апавяданні, драматычныя творы, выступалі ў жанры фельетона, вострага надзённага публіцыстычнага артыкула, з кожным годам расла. Наспявала патрэба ў выданні, дзе ўся гэта прадукцыя магла быць надрукавана. Чытача ўжо не задавальняла толькі газета. Суполка ведала гэту сітуацыю, добра арыентавалася ў наяўнасці літаратурных сіл. Таму спроба суполкі заснаваць беларускі часопіс стала адной з цікавых новых старонак яе дзейнасці. У канцы 1911 года ў «Нашай ніве» паявілася звестка пра альманах «Маладая Беларусь», а ў наступным — выйшаў першы сшытак першай серыі.

Рэдакцыя меркавала, што «Маладая Беларусь» будзе перыядычным выданнем, дзе чытачы знойдуць грамадскі раздзел, дзе будуць абгаворвацца «неадложныя для беларускага грамадзянства справы», раздзел навуковы і яшчэ «прыгожага пісьменства і штукі». У выдадзеных сшытках «Маладой Беларусі» чытачы змаглі прачытаць драматычную паэму Я. Купалы «Сон на кургане», вершаваныя апавяданні Я. Коласа, вершы Ц. Гартнага, А. Гурло, К. Буйло, Я. Журбы, Ф. Чарнышэвіча, А. Петрашкевіча (Філафея Калінкі), апавяданні Цёткі «Асеннія лісты», «Лішняя», «Зялёнка», «Абразкі» З. Бядулі, артыкулы пра формы нацыянальных адносін на Беларусі і ў Літве, пра неадкладныя задачы тагачаснай беларускай інтэлігенцыі. Выдадзеныя тры сшыткі альманаха «Маладая Беларусь» засведчылі, што на той час беларуская грамадскасць мела ўжо такую колькасць творчых сіл, што, каб не вайна, якая разбурыла ўсе планы, вынішчыла і частку творчай інтэлігенцыі, у беларусаў хапала ўжо магчымасцей, каб выдаваць сур'ёзны часопіс.

Асобна падкрэслім, як актыўна, нават самаахвярна прапагандавала суполка «Загляне сонца і ў наша аконца» беларускую кнігу. У Варшаве, Вільні, Мінску, Гродне, Гомелі, Віцебску былі адчынены контрагенцтвы. Сюды кнігі дасылаліся з Пецярбурга і на месцы ўжо даходзілі да чытача. Акрамя таго суполка пастаянна давала аб'явы ў «Нашай ніве» і дасылала кніжкі кожнаму жадаючаму.

Вайна спыніла выдавецкую дзейнасць арганізацыі, якая за няпоўныя 8 гадоў здолела выпусціць цэлую бібліятэчку з 38 кніг літаратурнага, грамадска-палітычнага, бытавога, навукова-папулярнага зместу, агульным тыражом больш за сто тысяч экземпляраў.

Суполка смела, самаахвярна, з найвялікшай верай у лепшую будучыню выйшла ў шлях «з светлага знання сяўбою» (Я. Купала) на карысць свайго народа, асвятліла шмат якія «сцежкі цямнот», якіх было надзвычай многа на той час на дарозе беларусаў да самасцвярджэння і прагрэсу, таму сёння нашчадкі, якім сацыялізм даў усе магчымасці заняць «свой пачэсны пасад між народамі», успамінаюць іх высакародную патрыятычную працу з глыбокай пашанаю і ўдзячнасцю.

**Янка САЛАМЕВІЧ,**
**лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР.**

### ІДЗЕ ПЕРАБУДОВА Ў МАСТАЦКАЙ КУЛЬТУРЫ

# НЕ ПРОСТА ЗМЕНА КАМАНДЫ

Сёння ўжо можна гаварыць аб першых выніках перабудовы ў мастацкай культуры. Ад слоў «трэба», «варта», «неабходна» савецкая творчая інтэлігенцыя перайшла непасрэдна да справы. Змены адчувальныя і ў літаратуры, і ў кінематографе, і ў тэатры.

Літаратура. У кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў, літаратурных часопісаў і выдавецтваў прыйшлі новыя людзі з сучасным кругаглядам, з заслужаным аўтарытэтам, добра вядомыя і любімыя чытачамі. Гэта не проста змена адной каманды іншай, як думалі некаторыя, а доўгачаканая перамена курсу ў літаратурнай палітыцы, звязаная са змяненнямі ў грамадскім жыцці краіны. Аб гэтым сведчаць творы, што з'явіліся ў часопісах «Новый мир», «Знамя», «Москва», «Дружба народов», «Юность», «Аврора», і творы, падрыхтаваныя да выхаду, якія не маглі б выйсці ўчора. Гэта літаратура, народжаная рэчаіснасцю, літаратура, якая хвалюе чытача. Аб ёй спрачаюцца, яе абмяркоўваюць, аб ёй гавораць.

Характэрна, што і крытыка стала нарэшце больш смелай і дэмакратычнай. Сёння крытыкуюцца не толькі кнігі малавядомых аўтараў, але і творы цяперашніх кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў, масцітых літаратараў з вялікім аўтарытэтам, такіх, як Ю. Бондараў, Ч. Айтматаў, В. Бялоў... У савецкай літаратуры сёння няма аўтараў па-за крытыкай. Сёння і тут уладарыць публічнасць.

Сталі выдаваць М. Гумілёва, У. Набокава... Амерыканскія і брытанскія радыёстанцыі падаюць гэты факт як сенсацыю, як намёк на «нешта». Але ніякага намёку тут няма. Проста адноўлена справядлівасць. Рускія пісьменнікі, якія маюць права называцца пісьменнікамі, друкуюцца на сваёй радзіме. Іх манархічныя погляды не могуць і не павінны быць гэтаму перашкодай таксама, як рабаўладальніцкія схільнасці Сенекі, легітымізм Бальзака, каталіцызм Шатабрыяна і Грэма Грына.

Надзвычай узрасла грамадская роля мастака. Гэта відаць хаця б на прыкладах у галіне экалогіі прыроды і экалогіі культуры. Адменены праект павароту паўночных рэк, за які выступалі даволі ўплывовыя асобы і міністэрствы. Яшчэ два гады назад амаль ніхто не ўзяўся б прадказваць перамогу мастакоў у гэтай спрэчцы з гаспадарнікамі.

Пачалася і актыўная барацьба з «шэрасцю», той самай шэрасцю, якая, прыкрываючыся актуальнасцю тэмы, запаўняла яшчэ ўчора старонкі кніг і часопісаў. Сёння ўжо ніхто не збіраецца прымаць дубовую прамалінейнасць за душэўную прамату. Якасць — галоўны крытэрый. Для ўсіх і для кожнага.

Кінематограф ужо парадаваў некалькімі вельмі цікавымі фільмамі. Яны доўгі час пыліліся на паліцах, напалохаўшы перастрахоўшчыкаў і бюракратаў. Сёння гэтыя стужкі ў шырокім пракаце. Забароненых тэм у кіно цяпер няма. Забаронена толькі халтура.

З 1 студзеня 1987 года больш за 70 тэатраў СССР сталі працаваць па новай сістэме. Ім прадастаўлена права самастойна вырашаць свае творчыя праблемы і несці за гэта ўсю паўнату адказнасці перад гледачом. Тэатр цяпер сам фарміруе свой рэпертуар, сам вырашае, якія менавіта спектаклі яму ставіць, сам без кіруючага пасрэдніцтва з боку органаў культуры выносіць работы на суд гледача. Нядаўна створаны Саюз тэатральных дзеячаў СССР. Яго кіраўнік вядомы акцёр Кірыл Лаўроў зноў асоба падкрэсліў, што новая мадэль тэатральнай справы «прапаноўвае максімальна магчымае самакіраванне тэатраў», ад самастойнасці ў фарміраванні рэпертуару да распараджэння сваімі фінансамі.

Бадай, самае складанае становішча ў выяўленчым мастацтве. У адрозненне ад многіх з'яў літаратуры, тэатра, кіно мастацкія выстаўкі 1986 года аказаліся, па сутнасці, у баку ад працэсу перабудовы. Параднасці ў іх хоць адбаўляй, а актуальныя вобразы часу сустракаюцца рэдка.

Боязь новага згубная для творчасці. Штампы робяць творчасць нецікавай. І жывапіс, і скульптура, і графіка не павінны заставацца глухімі да сюжэтаў, тэм, настрояў, якія складаюць сённяшнюю рэчаіснасць. Думаецца, што і тут адбудуцца ў бліжэйшы час кардынальныя змяненні. Снежаньскі пленум праўлення Саюза мастакоў СССР пацвярджае гэтае меркаванне.

Перабудова ў мастацкай культуры, натуральна, немагчыма без сутыкненняў думак. У яе не толькі мноства прыхільнікаў, але і нямала праціўнікаў, якія прывыклі спакойна жыць па-старому, думаць аб сваім дабрабыце і зусім не думаць пра гледача і чытача. Перабудова б'е ў першую чаргу па іх. Але ёсць у яе і ворагі, што выступаюць пад флагам «навізны». Гэта вядомыя ва ўсе часы «непрызнаныя геніі». Па прычыне, што іх опусы адхіляліся раней, яны патрабуюць прызнання сёння.

Іх довады: «Над Рэмбрантам таксама некалі смяяліся, імпрэсіяністаў таксама некалі не прызнавалі...» — не вытрымліваюць крытыкі. Гэта сафізм. Над Рэмбрантам сапраўды некалі смяяліся. Але не ўсякі, з каго смяюцца, абавязкова Рэмбрант. Значна часцей гэта звычайны выскачка-невук.

Ісціна не нараджаецца адразу ў гатовым выглядзе, як Афіна з галавы Зеўса. Такі закон жыцця. Сёння, выпраўляючы хібы і памылкі мінулага, перабудова ў культуры адкрывае новыя далягляды перад сапраўдным талентам і закрывае дзверы перад самазванцамі ад мастацтва.

**Гаўрыіл ПЕТРАСЯН.**

**Каля чатырохсот работ мастакоў і майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва было прадстаўлена на традыцыйнай рэспубліканскай мастацкай выстаўцы-продажы, якая працавала ў снежні мінулага года ў мінскім Палацы мастацтва.**

**Жывапіс і графіку, кераміку і фарфор, вырабы з саломкі і лазы, габелены і ткацтва прадставілі 115 аўтараў з усіх абласцей рэспублікі.**

**НА ЗДЫМКАХ: у зале выстаўкі-продажу; В. КОПЦЕЎ. Гадзіннік «Ажурны»; Ю. КУХАРАЎ «Францыск Скарына».**

**Фота Я. КАЗЮЛІ.**

### СУПРАЦОЎНІЧАЮЦЬ ТЭАТРАЛЬНЫЯ КАЛЕКТЫВЫ

# ГРЭЕ ЦЯПЛО СЯБРОЎСКІХ СУСТРЭЧ

Некалькі гадоў назад з падпісання дагавора аб творчым супрацоўніцтве пачаўся зацікаўлены дыялог паміж лялечным тэатрам у Славеніі і Дзяржаўным тэатрам лялек БССР. Першую магчымасць пазнаёміцца з традыцыямі, драматургіяй, акцёрскім майстэрствам замежных калег беларускія лялечнікі атрымалі ў час Дзён славенскай культуры ў Беларусі.

І вось у кастрычніку мінулага года адбылася паездка нашага калектыву ў Славенію ў складзе беларускай дэлегацыі дзеячаў літаратуры і мастацтва. «Самае прыемнае ўражанне засталося ад Славеніі, — гаворыць заслужаны артыст рэспублікі В. Грамовіч, — надзвычай шчырыя адносіны да нас, нашага мастацтва, усіх жыхароў Беларусі».

Так, мінскім лялечнікам было што расказаць пра сябе. Тэатр праз два гады адзначыць сваё 50-годдзе. І ўвесь гэты час калектыў імкнуўся да стварэння яркіх, захапляючых па думцы і дзеянню спектакляў, тэатр стаў сапраўднай школай выхавання пачуццяў.

Вынік творчых намаганняў калектыву — шматлікія прэміі і дыпломы на фестывалях тэатраў лялек не толькі ў нашай краіне, але і за мяжой.

За гады дзейнасці тэатр паставіў звыш 150 п'ес, сыграў больш за 2 500 спектакляў, на якіх пабывала больш 7 мільёнаў гледачоў.

Сёння ў тэатры ідзе працэс сінтэзацыі розных відаў мастацтва, калі адбываецца своеасаблівае злучэнне драматычнага, лялечнага, музычнага тэатраў і пантамімы. Да ліку такіх эксперыментальных спектакляў можна аднесці драматычную кантату «Зорка і смерць Хаакіна Мур'еты» чылійскага паэта Пабла Нэруды, «Клоп» Уладзіміра Маякоўскага, «Прыгоды бравага салдата Швейка» Яраслава Гашака.

У рэпертуары мінскіх лялечнікаў спектаклі па п'есах не толькі савецкіх, але і замежных драматургаў. Але самая багатая крыніца арыгінальных пастановак для дзяцей — беларускія народныя казкі.

Ні з чым непараўнальная прыцягальнасць каларытнай мовы, традыцый, чалавечых характараў пранізваюць спектаклі-казкі па п'есах беларускіх аўтараў «Балада аб белай вішні» С. Клімковіч, «Дзед і Жораў» В. Вольскага, «Граф Глінскі-Папялінскі» А. Вольскага. Апошні спектакль быў паказаны на Днях беларускай культуры ў Славеніі.

Рэакцыя маленькіх славенцаў перавысіла ўсе чаканні. Вось што расказвае дырэктар Люблянскага лялечнага тэатра Ігнацэ Шуніч:

— Я не бачыў ніводнага малыша, які б застаўся абыякавым. А вышэй, па-мойму, адзнакі быць не можа. На спектаклях беларускіх лялечнікаў — заўсёды аншлаг. З нецярпеннем іх чакалі не толькі дзеці Любляны, але і мы, калегі па мастацтву. Мы яшчэ добра памятаем свае гастролі ў Мінску, цяпло сяброўскіх сустрэч на беларускай зямлі. Падобныя кантакты — выдатная школа ўдасканалення прафесійнага майстэрства.

Люблянскія лялечнікі запазычылі ў мінчан тэхналогію вытворчасці марыянетак. Беларусаў зацікавіла славенская драматургія. Сумесная работа будзе прадоўжана. Падпісана пагадненне аб далейшым творчым супрацоўніцтве абодвух калектываў яшчэ на тры гады.

**Н. ЗЛАТКОЎСКАЯ.**

### АЛЕСЬ СУЧОК — ПАЭТ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

# НЕЛЬГА ВЫКІНУЦЬ СЛОВА З ПЕСНІ

Ёсць на Слонімшчыне вёска з прыгожаю назваю Азярніца. Тут і сустрэў сваё 70-годдзе паэт і актывіст вызваленчага руху былой Заходняй Беларусі Алесь Сучок (Пётр Дабрыян). У прадмове да кнігі «Сцягі і паходні» Уладзімір Калеснік пісаў: «Мастацкая вартасць паблекла ў смузе часу, але для гісторыі літаратуры такія рэчы, як, напрыклад, вершы Алеся Сучка (П. Дабрыяна) маюць сваё значэнне. Іх нельга выкінуць, як слова з песні». А песні Алеся Сучка пачалі з'яўляцца яшчэ ў 1934 годзе. Менавіта ў красавіку гэтага года паліцыя затрымала саккратара слонімскага падпольнага райкома піянераў Пятра Дабрыяна. І буржуазны суд Польшчы прыгаварыў яго да чатырох гадоў турэмнага зняволення. Многія вершы, напісаныя ў турме, не захаваліся. Але асобныя творы Алеся Сучка завучваліся мясцовай моладдзю на памяць, яны гучалі на вечарынках, камсамольскіх і піянерскіх сходах, у гуртках мастацкай самадзейнасці. А ў 1938 годзе віленскі часопіс «Шлях моладзі» ўпершыню друкуе тры ягоныя вершы «Вясна», «Мне ахвота», «Я бачыў», у якіх Алесь Сучок услаўляў свабоду:

**Я бачыў — усходзіла сонца,**
**З-за горкі зігцела яно.**
**І, яснае, пекна бясконца**
**Свяціла й свяціла ў акно.**
**І песцілі душу праменні,**
**У сэрца мне сілы лілі,**
**У думках ўставалі імкненні—**
**За сонцам плылі і плылі...**

Сёння вершы Алеся Сучка, напісаныя ў трыццатыя гады, маюць перш за ўсё літаратурна-гістарычную цікавасць. Іх агульны пафас — стваральны, сугучны рэвалюцыйным пераўтварэнням. Гэта вершы-заклікі, вершы-лозунгі:

**Прыйшла пара чаканая,**
**Свабодны мой народ.**
**Старонка катавання,**
**Вітай чырвоны ўсход.**

Паэт-рэвалюцыянер вучыўся паэтычнаму майстэрству ў Валянціна Таўлая, Максіма Танка, Анатоля Іверса і іншых паэтаў Заходняй Беларусі. Вершы дасылаў у беларускія выданні. У 1939 годзе, калі Чырвоная Армія прынесла вызваленне, Пётр Дабрыян уладкаваўся працаваць літработнікам слонімскай газеты «Вольная праца». Гэта быў у жыцці паэта самы радасны час.

У гады Вялікай Айчыннай вайны П. Дабрыян пайшоў у партызаны, актыўна змагаўся з ворагам. За гэта ён узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны і баявымі медалямі. У пасляваенныя гады працаваў старшынёю сельскага Савета, сакратаром Слонімскага райкома ЛКСМБ. І па-ранейшаму шмат пісаў вершаў, артыкулаў-успамінаў аб Заходняй Беларусі. «Галоўны герой Алеся Сучка,— пісалася ў кнізе «Наднёманскія былі»,— чалавек моцны і рашучы, заўсёды гатовы да актыўных баявых дзеянняў супраць ненавісных тагачасных парадкаў. Ён верыць у сілы народа»:

**Мы здабудзем перамогу,**
**Бо за намі ўвесь народ.**
**Падымайма ўжо трывогу,**
**Смела пойдзем у паход!**

У 1965 годзе ў калектыўным зборніку «Сцягі і паходні» былі змешчаны тры вершы Алеся Сучка. Чытаючы іх, адчуваеш вялікі ўплыў заходнебеларускага фальклору. Лірыка А. Сучка вельмі напеўная і метафарычна яркая, яна пранікнута журботнасцю і шчырасцю.

У канцы мінулага года Пятру Дабрыяну (Алесю Сучку) споўнілася 70 гадоў. Але ён, як і раней, шмат працуе з моладдзю, вядзе вялікую работу па вывучэнню беларускай культуры і літаратуры, выхоўвае ў падрастаючага пакалення любоў да сваёй зямлі, культурнай спадчыны. Не перастае складаць і вершы, якія пастаянна друкуюцца ў раённай і абласной газетах. Тэмы ж падказвае само жыццё.

**Сяргей ЧЫГРЫН.**

